


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 ліпеня 2001 года

№ 30 (327)
Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

Навіны рэгіёна

## Маланка прыйшла ў госці

**СМАРГОНЬ.** У вёсцы Няхведы Вішнеўскага с/с у 4 гадзіны раніцы 23 ліпеня ў жылы дом уляцела шаравая маланка.

У выніку адключылася тэлефонная лінія, павыбівала разеткі, адсталі ад сценаў шпалеры. Госця рушыла назад праз адтуліну ў сцяне, якую сама сабе і зрабіла. Пасля сябе яна пакінула шмат дыму. Людзі не пацярпелі, але напалохаліся.

Тарэса КУМІШЧА.

**P. S.** Па рэгіёне пасля навальніц адзначаныя шматлікія выпадкі выхаду са строю тэлефонных апаратаў (у асноўным, з вызначальнікам нумара), мадэмаў, нават мацярынскіх плат кампю"-тэраў і прынтараў. Каб пазбегнуць удару маланкі, сувязісты настойліва раяць адключаць падобнае абсталяванне.

Аддзел інфармацыі «РГ».

## Мала дзяцей – зачыняюць школу

**АСТРАВЕЦ.** У новым навучальным годзе ў раёне стане менш на адну школу – закрыюць Дравяніцкую пачатковую школу. Пайсці на падобны крок аддзел адукацыі вымусіў той факт, што толькі двое вучняў павінны былі б сесці за парты. 1 верасня яны пойдуць у суседнюю Градаўшчызненскую дзевяцігодку. Акрамя гэтага вырашаецца лёс і Алясінскай пачатковай школы. Дзяцей у ёй вучыцца таксама няшмат.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

## Грошы для школы і Дома культуры

**МАЛАДЗЕЧНА.** Намеснік старшыні гарвыканкома па будаўніцтву **Мікалай Воранаў** адзначае, што для завяршэння будаўніцтва школы ў мікрараёне №6 патрэбна 5 "з капейкамі" мільярдаў рублёў. Да зімы патрэбна ўзвесці сцены і дах. 2 мільярды рублёў паступілі ў горад. На Дом культуры патрэбна 5,5 мільярда. Тэрмін уводу — не пазней за 1 лістапада 2002 года. Дапамога з абласнога бюджэту складзе 2,5 мільярды.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** сказаў на нарадзе, што даўгабуд увойдзе ў строй своечасова.

Юрый КАРПІЦКІ.

## Датчане ўпадабалі нашае піва

**МАЛАДЗЕЧНА.** У аўторак піўзавод наведалі прадстаўнікі датскай фірмы "Хольврыка" **Хольвер Марціпсан і Ёрген Джэнсан.** Намеснік дырэктара завода па вытворчасці **Любоў Благавешчанская** расказала, што госці з-за мяжы прывезлі абсталяванне, далі рэкамендацыі па яго эксплуатацыі.

З панядзелка некаторы час будзе кантраляваць работу новай тэхнікі дацкі спецыяліст. А вядучаму тэхнолагу Джэнсану надта спадабалася маладзечанскае піва.

Мікалай ХАДАСЕВІЧ.

## Місія АБСЕ ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА.** У горадзе адбылася сустрэча намесніка групы АБСЕ Мішэля Рэвалі з кіраўнікамі ініцыятыўных груп Маладзечаншчыны па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Асноўнай тэмай размовы сталі будучыя выбары.

Госцю вельмі цікавілі пытанні інфармаванасці беларускага насельніцтва і ці ёсць перашкоды з боку ўладаў.

Тацццяна МАРТЫНАВА.

## Адмена электрацягнікоў



У сувязі з правядзеннем пуцявых работ 27 ліпеня адмяняюцца электрацягнікі: адпраўленнем з Маладзечна ў 14.55 і прыбыццём з Мінска ў 14.12.



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 28 ліпеня

**Мінск**
12 – 14°С (уначы)
17 – 22°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
21°С (удзень)



Нядзеля, 29 ліпеня

**Мінск**
10 – 16°С (уначы)
20 – 21°С (удзень)



**Вільня**
14°С (уначы)
20°С (удзень)



# Заліло



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

**Маладзечна, 25 ліпеня. Горад заліло.**
**На Віленскай паміж пуцеправодам і вуліцай Чарняхоўскага моладзь купалася.**

Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## Наколькі вы задаволеныя сваім жыццём?



**Васіль Тарасевіч, прадпрымальнік:**
– Не скажу дакладна ў працэнтных суадносінах, бо чалавек заўжды чымсьці незадаволены. А так, цяжка, але жыць можна.



**Віталь Божка, рабочы:**
– Жыллём забяспечаны, зарплата нармальная. Хацелася б больш забаўляльных мерапрыемстваў. А то ў тым жа парку - сум адзін.



**Валерый Валадзько, будаўнік:**
– Галоўнае, каб было здароўе. І каб было стабільнае эканамічнае і палітычнае становішча ў краіне.



**Галіна Васюта, прыбіральшчыца:**
– Вельмі задаволеная. Каб была магчымасць пражыць яшчэ адно жыццё, нічога не мяняла б. Здароўе, дзякуй богу, нармальнае. Думаю, што маладое пакаленне пажылых людзей не падвядзе.



**Яўген Брылеўскі:**
– Усё ў мяне добра. Скончыў індустрыяльна-педагагічны каледж, атрымаў работу ў Гродне. Буду працаваць майстрам вытворчага навучання – выхоўваць моладзь. Паступаю ў Полацкі дзяржаўны інстытут. У мяне наперадзе служба ў арміі. Але я не перажываю, бо ад гэтага нікуды не дзенешся.



**Агрыпіна Палуэктава, пенсіянерка:**
– Я не здаюся. Цяпер жывецца цяжкавата, але перажыву. Галоўнае – не апускаць рукі ў жыцці. Мне дапамагае праца, у прыватнасці, мая дача. Я ўвогуле люблю корпацца ў зямлі, працаваць на ёй.

**На жаль, не менш за дзесятак маладзечанцаў удзельнічаць у апытанні адмовіліся. Усе яны жыццём незадаволеныя.**

Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.

■ НАША ГІСТОРЫЯ

# Адрадзілася Купа

**МЯДЗЕЛ. Шматвяковую і цікавую гісторыю мела вёска Купа, што размясцілася на паўночна-заходнім беразе Нарачы. Далі такую назву яе першыя насельнікі – рыбакі, хлебаробы. Прычынай, кажуць, сталася тое, што каля ручаіны, якая ўпадала ў возера, было шмат купін. А мо, таму, што людзі любілі купацца, былі добрыя плыўцы?**

Купа ў далёкім мінулым зведала халеру, была разбурана падчас першай сусветнай вайны (немцы выселілі людзей, а хаты выкарысталі для ўзвядзення зямлянак, сховішчаў).

Купскія сяляне бачылі, як весяляцца на беразе Нарачы багацеі з розных гарадоў Польшчы, якія назвалі возера "польскім морам" (да верасня 1939 года).

У час нямецка-фашысцкай акупацыі людзі зведалі ўсе жахі таго часу.

Пасля вайны берагі Нарачы пачалі забудоўваць здраўніцамі. Драўляных дамоў у Купе рабілася ўсё менш і менш: на іх месцы ўзводзіліся шматпавярховыя мураванкі.

26 верасня 1964 года Купу Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР перайменавалі ў курортны пасёлак Нарач. З мясцовымі не раіліся, пажаданняў не ўлічвалі. Ініцыятыва некалькіх начальнікаў вырашыла лёс Купы. І праз 37 год на аўтастанцыях Мінска, Маладзечна, Мядзела можна пачуць ад касіраў:

– Да якой Нарачы білет? Да курорта ці да вёскі? (Суседні Кабыльнік тады ж перайменавалі ў Нарач.)

А нядаўна карэнныя жыхары і адпачываючыя ўзрадаваліся, калі ўбачылі, як да гасцініцы "Нарач" прымацоўваюць шыльду "Кафэ-бар Купа" (у суседняй вёсцы Нарач яшчэ раней з'явіўся шынок "Кабыльніцкі"). Не знікаюць старадаўнія назвы, што не прыйшліся даспадобы высокім начальнікам.

Хацелася б, натуральна, ведаць імёны тых, хто "паклапаціўся" сцерці з карты Мядзельшчыны назвы, прыдуманыя нашымі далёкімі продкамі. А потым занесці тыя імёны ў летапіс населеных пунктаў. Каб нашчадкі ведалі, па чыёй волі давалі новыя, часам недарэчныя, назвы паселішчаў.

У былой Купе, а цяпер курортным пасёлку Нарач, захаваліся тры драўляныя дамы, у адным з якіх можна было б размясціць музей "З гісторыі Нарачы". Але нікому не прыходзіць у галаву такая думка. Калі гэтых дамоў не стане, будуць шкадаваць, што зніклі апошнія сляды старадаўняга паселішча.

Ёсць і такая прапанова: у дамах, дзе калісьці жылі і стваралі Максім Танк, Міхась Лынькоў і Аркадзь Куляшоў, адкрыць мемарыяльныя пакоі, прысвечаныя жыццю і творчасці гэтых знакамітых людзей.

Нельга дапусціць, каб сціраліся, зніклі сляды мінуўшчыны, каб людзі не ведалі гісторыі родных мясцін.

P. S. Ініцыятыва назваць кафэ-бар "Купа" сыходзіла з адміністрацыі Нарачанскага Нацыянальнага парку.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ МОЛАДЗЬ

# Акцыя «ЗУБРоў»

**ВІЛЕЙКА. У горадзе прайшла акцыя ЗУБРоў "Час выбіраць". Маладыя людзі ў майках з эмблемай "ЗУБР" і надпісам "Час выбіраць" раздавалі спецвыпуск газеты "Наша Свабода".**

Ад раніцы групы па 3-4 чалавекі выйшлі ў людныя месцы: вакзал, гарадскі базар, бальніца. Праз паўгадзіны на вакзал прыехала міліцыя і добраахвотна-прымусова (спачатку прасілі прайсці да машыны, а затым і праехаць у аддзяленне міліцыі) запрасіла моладзь на размову, а яшчэ праз гадзіну былі забраныя ў міліцыю маладыя людзі з базара і бальніцы.

Моладзь папрасілі напісаць тлумачэнне пра далучэнне да розных надпісаў на сценах і расклейвання наклеек у непрызначаных месцах. Пасля ўмяшання прадстаўніка БХК **Уладзіміра Малярчука** ў 11 гадзін усіх адпусцілі.

Адразу ж пасля гэтага моладзь вярнулася на базар і прадоўжыла да 13.00 сваю акцыю. Увечары на вакзале яны распаўсюдзілі гэтыя газеты сярод ад'язджаючых з Вілейкі на поездзе Полацк—Мінск і сярод рабочых заводаў "Буддэталі" і "Зеніт" (пасля заканчэння змены). Паўторных затрыманняў не было.

Намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Іван Сак** гаворыць, што горад размалявалі надпісамі "ЗУБР". А паколькі юнакі і дзяўчаты былі апранутыя ў майкі з надпісам "ЗУБР", то ў іх і хацелі даведацца "пра падрабязнасці".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ АСОБЫ

# Паэзія з медыцынай паралельныя

**МАЛАДЗЕЧНА. Наталля Танюкевіч – чалавек з шырокім колам захапленняў і інтарэсаў. Па прафесіі яна ўрач, але ўрач не звычайны, бо лечыць людзей з дапамогай гамеапатыі, астралогіі, выкарыстоўвае ў сваёй практыцы дыягностыку па метадзе Фоля.**

Яшчэ Наталля піша цудоўныя вершы. Песні на яе словы, музыку да якіх стварае кампазітар Алена Атрашкевіч, з зайздросным пастаянствам займаюць прызавыя месцы на конкурсах: "Non-stop" – Гран-пры, выканаўца Дзіма Мінько (рэгіянальны фестываль "Адна зямля-1999" у Чысці), "Сон у летнюю ноч" – Гран-пры, Даша Урызчанка ("Адна зямля-2000" у Валожыне), "Птушка" – Гран-пры, Саша Салаўёў (конкурс выканаўцаў новай дзіцячай песні "Дзень нараджэння" у Санкт-Пецярбургу).

Песня "Спасибо тебе, Беларусь" – дала назву сольнай праграме Стэлы. "Навагодняя" – у якасці заключнай гучала са сцэны канцэртнай залы "Расія" у Маскве (конкурс "Калядныя канікулы").

Гэта, натуральна, далёка не поўны пералік. Адна з апошніх "пераможных песень" у перакладзе Таісы Трафімавай – "Дзень закаханых". Дзмітрый Танюкевіч заняў з ёю І месца на рэгіянальным конкурсе выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля-2001", што прайшоў у чэрвені ў Ашмянах.

**– Наталля, што для вас захапленне – медыцына ці паэзія?**

– Вызначыць гэта немагчыма, бо яны ішлі побач з дзяцінства. Сама я з Касцюковічаў, што на Магілёўшчыне. З 5 класа, ездзіла на алімпіяды па біялогіі (у тым ліку, абласныя), атрымлівала дыпломы. Гэты прадмет мне вельмі падабаўся. А вершы пісаць я пачала недзе з 9 год. Яшчэ і малявала, танцавала. У 8 класе паехала ад школы ў "Зубраня" – была юнкораўская змена, таму стваралі газету, удзельнічалі ў конкурсах. Праз колькі год у "Зубраняці" адпачываў брат. На лінейцы пачуў мой верш, які "прыжыўся" у летніку. На той час ужо ніхто не ведаў, адкуль той верш узяўся, хто яго аўтар. У медінстытуце была культоргам курса, уваходзіла ў рэдкалегію студэнцкай газеты. Такім чынам, усё ў мяне ішло паралельна.

**– Школа, вучоба ў інстытуце – на захапленні хапала часу. Якім чынам яны праяўляліся ў далейшым жыцці?**

– Паэзія ў мяне ніколі не адымала час. Я не саджуся спецыяльна, каб нешта напісаць. Гэта ўзнікае спантанна: нейкая асацыяцыя, нешта неаформленае. На рабоце, па дарозе дадому – у галаве быццам самі па сабе ўзнікаюць словы, складаюцца ў радкі. Калі іх адразу не "злавіш", не занатуеш, бясследна знікаюць. Шкада, што не было магчымасці адразу ў любы момант запісаць тое, што раптам пачынала "ліцца". Бывае, за дарогу цэлая паэма складаецца.

Цяпер у мяне на тумбачцы ў спальні заўсёды ляжыць аловак і аркуш паперы. Таму што можа "пайсці радок", бы пад дыктоўку. Люблю пісаць, калі мне добра, цёпла, утульна. І каб нікога не было побач.

Калі сыну было 9, на ўрок беларускай мовы спатрэбілася яму вывучыць верш беларускага пісьменніка. Пакуль дамашнія шукалі кнігу, я зразумела, што хутчэй будзе напісаць верш самой. І напісала. На наступны дзень настаўніца прыйшла са мной знаёміцца.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Наталлю Танюкевіч лёгка аднолькава ўявіць і паэткай, і ўрачом.**

**– Як перасякліся вашыя з Аленай Атрашкевіч захапленні?**

– Бывае, па тэлевізары, радыё чуеш нізкапробныя творы. У такія моманты магу буркнуць: "Я сто такіх песень напішу!" Сын некалі адрэагаваў: "Дык напішы!". Калі пачула песні Алены і яе прозвішча, спыталася ў сына, які вучыцца ў музвучылішчы, хто такая Атрашкевіч. Сын адказаў, што гэта педагог музвучылішча, і зноў пакпіў з мяне, што я пабаюся напісаць што-небудзь. Я раззлавалася, напісала чатыры тэмы і пайшла да Алены ў музвучылішча. Тая прачытала вершы і на наступны дзень патэлефанавала. Дамовіліся супрацоўнічаць: яна дае тэмы, сюжэты будучых песень, я пішу вершы пад канкрэтных выканаўцаў. Прыкладам, трэба было напісаць песню для хлопчыка-падлетка (развітанне з дзяцінствам, яго мары). Так нарадзілася "Лодка дзяцінства", якая дала назву аднайменнай першай касеце дзіцячых песень Алены Атрашкевіч. Цяпер у нас з ёй больш за 30 песень.

Гутарыла
**Наталля ХАРЫТОНАВА.**

■ МНАГАДЗЕТНЫЯ СЕМ'І

# Конкурс плакатаў

**СМАРГОНЬ. У суботу ГА "Мнагадзетныя бацькі Смаргоншчыны" правялі сярод дзяцей конкурс плакатаў.**

63 дзіцяці ад 4 да 16 гадоў агульнымі намаганнямі стварылі 20 работ. Яны настолькі ўразілі журы, што вырашана зрабіць выстаўку ў цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Пераможца вызначыцца пасля выстаўкі. Пакуль жа ўсе ўдзельнікі атрымалі цукеркі, пернікі і шакалад.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

■ ЛЕТА

# Гарачае надвор'е і купанне

**МІНСК. Рэспубліканскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ўстанавіў больш жорсткі кантроль за санітарна-гігіенічным станам месцаў масавага адпачынку насельніцтва і якасцю вады адкрытых вадаёмаў.**

З пачаткам купальнага сезона штотыднёва робіцца лабараторная даследаванні вады па бактэрыялагічных і санітарна-хімічных паказчыках. У выпадку неадпаведнасці атрыманых вынікаў нарматывам галоўны дзяржаўны санітарны ўрач той або іншай тэрыторыі выносіць пастанову аб забароне купання ў такім вадаёме.

Вадаёмы Мінска і Мінскай вобласці не забруджаныя.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ЭКАЛОГІЯ

# «Чыстае паветра»

Інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы наваколля правяла аперацыю "Чыстае паветра". Аб'ектам праверак сталі забруджаныя адходы ў адпрацаваных газах аўтамабіляў рэгіёна.

| | На аўтамагістралях | | На прадпрыемствах | |
|---|---|---|---|---|
| | усяго машын | парушэнні | усяго машын | парушэнні |
| Маладзечанскі раён | 573 | 135 | 308 | 15 |
| Валожынскі раён | – | – | 23 | 2 |
| Вілейка і раён | 43 | 10 | 35 | 2 |
| Мядзел і раён | 60 | 13 | 31 | 1 |
| Смаргонь і раён | 868 | 98 | 179 | 12 |
| Астравец і раён | 564 | 38 | 89 | 12 |
| Ашмяны і раён | 1141 | 102 | 163 | 36 |

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Ахвяра спякоты і вады

**АСТРАВЕЦ. Днямі міліцэйскія зводкі папоўніла трагічная вестка. На вадаёме ў вёсцы Альхоўка ўтапілася 26-гадовая дзяўчына, работніца ААТ "Кардонная фабрыка "Альхоўка".**

Як відаць, у гэтыя спякотныя дзянькі людзі хаваюцца ад сонца ў вадзе, а знаходзяць там смерць.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, ліпень-жнівень**

27–29 **"Спаун"**, ЗША 17-00, 22-00

**"Людзі гонару"**, ЗША (на відэасістэме) 14-30, 19-30

30 ліпеня – 5 жніўня **"Дом вялікай мамы"**, ЗША, камедыя (на відэасістэме) 14-30, 19-30, 22-00

**"Азартныя гульні"**, ЗША (на відэасістэме) 17-00

**Для дзяцей**

27 – **"Ян Бібіян"**, Балгарыя, казка 11-00

28 – **"Трое з Прастаквашына"**, мультпраграма 13-00

29 – **"Аленяня Рудольф"**, паўнаметр. мультпраграма 13-00

30 – **"Горад майстроў"**, "Беларусьфільм" 11-00

31 – **"Залатыя рогі"**, Расія 11-00

■ ІМЯНІНЫ

**27 ліпеня**
Праваслаўныя: Анісіма.
Каталіцкія: Наталлі, Юліі.

**28 ліпеня**
Праваслаўныя: Савы, Уладзіміра.
Каталіцкія: Віктара, Інакенція.

**29 ліпеня**
Праваслаўныя: Валянціны, Юліі, Паўла.
Каталіцкія: Марты, Олафа.

**30 ліпеня**
Праваслаўныя: Марыны, Маргарыты, Лазара, Леаніда.
Каталіцкія: Людмілы, Пятра.

**31 ліпеня**
Праваслаўныя: Амяльяна, Івана.
Каталіцкія: Ігната, Любаміра.

**1 жніўня**
Праваслаўныя: Рамана, Серафіма, Суяпана.
Каталіцкія: Юстыны, Пятра.

**2 жніўня**
Праваслаўныя: Абрама, Апанаса, Ільі.
Каталіцкія: Карыны, Марыі, Густава.

■ ДНІ



1706–1707 – **Дзейнасць у Гродне манетнага двара.**

30 ліпеня – **130 год з дня нараджэння Віктара Чавусава** (1871–1920), беларускага грамадскага дзеяча і журналіста.

2 жніўня – **Дзень дэсантнікаў.**

**100 год з дня нараджэння І. Мурамцава** (1901–1968), беларускага і рускага спевака.

■ ПАСАДЫ

## Два прадпрыемствы ўзнімаюцца з каленяў?

**МАЛАДЗЕЧНА. Ідуць справы ўгару пасля змен кіраўнікоў на ААТ "Камбінат хлебапрадуктаў" і Маладзечанскім заводзе металавырабаў.**

На першым прадпрыемстве за некалькі месяцаў работы кіраўніком **Вадзіма Пабядзінскага** амаль на 20%, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, вырас аб'ём прамысловай вытворчасці. Да яго прыходу прадпрыемства працавала на 42% ад леташняга ўзроўню.

Існуе запазычанасць перад банкамі ў 4 мільярды рублёў. 2,3 мільярды завод плануе вярнуць да 1 жніўня, астатняе — да лістапада-снежня.

Асвойваюцца новыя віды прадукцыі, з жніўня ў 1,5 разы павышаюць вытворчасць камбікармоў.

На другім заводзе новы кіраўнік **Уладзімір Уладыка** ліквідаваў паўгадовую запазычанасць за энерганосьбіты, расце аб'ём прамысловай вытворчасці.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Новы дырэктар на агрэгатным заводзе

**СМАРГОНЬ. У ліпені выконваць абавязкі дырэктара на заводзе стаў Баляслаў Тамашэвіч. Ён змяніў на гэтай пасадзе Паўла Шыркаўца.**

Баляслаў Тамашэвіч родам са Смаргонскага раёна. Паўтара гады працаваў намеснікам дырэктара. Да гэтага ён быў генеральным дырэктарам завода аптычнага машынабудавання.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## На «Канфе» памяняюць дырэктара?

**МАЛАДЗЕЧНА. У бліжэйшы час ААТ "Канфа" можа памяняць дырэктара. Амаль за год кіравання Фёдара Шатохіна, "Канфа" не можа пахваліцца нейкімі дасягненнямі.**

За першае паўгоддзе ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года прадпрыемства скараціла аб'ём вытворчасці больш, чым у два разы.

**Фёдар Шатохін** на нарадзе кіраўнікоў горада і членаў гарвыканкома ў аўторак прызнаў, што прадпрыемства само не зможа вылезці з ямы. Патрэбны інвестар.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**:

— За апошні год мы бачым каласальнае зніжэнне колькасці рабочых на прадпрыемстве. Зарплата на ім — адна з самых нізкіх у горадзе. Дырэктар сам не бачыць перспектыў. Хаця ён, безумоўна, добры чалавек. Я лічу, што гэта памылка, калі выканком так доўга глядзіць на работу "Канфы" і нічога не прадпрымае.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Першы прыватны рынак

**СМАРГОНЬ. Ад пачатку чэрвеня рынак раўспажыўтаварыства перайшоў у прыватныя рукі. Яго выкупіў прадпрымальнік Аляксандр Багдзевіч. За колькі, не гавораць.**

На рынку каля 70 гандлёвых месцаў. З прыходам новага гаспадара паднялася арэндная плата. Але, як лічаць прадаўцы, павышэнне арэнды нязначнае. Затое за паўтара месяца на рынак правялі ваду, зрабілі прыбіральню (якой не было усе два дзесяткі год існавання рынку). Прадаўцы маюць фірменнае адзенне, бэджы з сваімі імёнамі і прозвішчамі. Кожны забяспечаны вагамі.

Але гаспадар збіраецца істотна змяніць знешні від рынку.

— Цяпер дапрацоўваем праект, — гаворыць Аляксандр Багдзевіч. — Рынак будзе мець дах і адпавядаць санітарным нормам для гандлю ўсімі прадуктамі харчавання.

Уладальнік мяркуе змяніць воблік рынку на працягу двух год.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**У панядзелак на рынку ў Смаргоні было няшмат прадаўцоў. Для іх гэта выхадны дзень. Але ягады ля ўвахода прадаюць без выхадных.**

# У чаканні ашмянскіх атракцыёнаў

**СМАРГОНЬ. Ці не ўпершыню за апошні месяц сюды ў панядзелак не прыехалі карты (невялічкія аўтамабілі) з Ашмянаў.**

За скверыкам лясгаса па вуліцы Савецкай пабудаваны аўтадром з аўтамабільных пакрышак. Уладальнік атракцыёна — картадром «Ашмяны». Каб праехаць 4 кругі на карце, патрэбна выкласці тысячу рублёў. Дыстанцыя ўдвая менш каштуе 500 рублёў (гэта 1-2 мінуты язды).

Абедзве машынкі заўсёды працуюць без прастою. Але ў час нашай паездкі ля трасы сядзелі толькі хлапчукі, якія чакалі прыезду ашмянцаў.

Яны гавораць, што найбольш папулярныя карты, натуральна, у школьнікаў. За руль садзяцца і пагранічнікі часці, што знаходзіцца непадалёку. Яны часцяком катаюцца «оптам» (адразу на 6-8 тысяч рублёў).



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Смаргонь, панядзелак. Школьнікі Жэня, Віця і Толя дарэмна чакаюць прыезду атракцыёна з Ашмянаў.**

У панядзелак з боку Ашмянаў ішла вялізная хмара. Магчыма, яна і спалохала картынгістаў. Сапраўды, у той дзень у Смаргоні быў лівень.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

# Новы шлях да калгаснага рынку

**МАЛАДЗЕЧНА. З аўторка істотна змянілася схема заезду на калгасны рынак. Участак вуліцы Хмяльніцкага якраз уздоўж рынку стаў «несудаходным». Трапіць сюды могуць толькі пешаходы.**

У сувязі з гэтым вуліца Таўстога на 1800 змяніла накірунак аўтамабільнага руху. Цяпер на яе можа трапіць з вуліцы Віленскай (з боку Цэнтральнай плошчы), адпаведна і рухацца можна ўверх.

Практыка паказвае, што яшчэ мала хто з вадзіцеляў пра гэта ведае, хаця адпаведныя знакі стаяць. Пасля новаўвядзення – бясспрэчна, карысная, бо па Хмяльніцкага ў базарныя дні ідзе ці не ўвесь горад – немінуча ўзнікне праблема паркоўкі аўтамашын. Відавочна, пацерпяць бліжэйшыя дворы.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**




## Курсы валют НБ РБ

| | 19 ліпеня | 26 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 1403,00 руб. | 1406,00 руб. |
| Нямецкая марка | 616,09 руб. | 627,69 руб. |
| Літ | 350,79 руб. | 351,45 руб. |
| Расійскі рубель | 47,98 руб. | 48,07 руб. |
| Злоты | 335,24 руб. | 334,80 руб. |
| ЕЎРА | 1204,97 руб. | 1227,65 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | 19 ліпеня | 26 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 1430 – 1450 руб. | 1440 – 1460 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 18.07 | 25.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2400 | 2300 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7240 | 7300 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 750 | 789 |
| Алей, 1 л | 860 | 850 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 280 | 280 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 480 | 500 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 400 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 200 |
| Агуркі, 1 кг | 250 | 250 |
| Памідоры, 1 кг | 750 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 1650 | 1600 |
| Апельсіны, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Кавуны, 1 кг | 600 | 600 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1100 |
| Масла, 1 кг | 2200 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 600 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1000 |
| Бульба маладая, 1 кг | 300 | 200 |
| Морква, 1 кг | 600 | 600 |
| Чарніцы, малое вядро | 3500 | 3500 |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 3000 | 2500 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 1500 | 1000 |
| Маліны, малое вядро | 4000 | 4500 |
| Вішні, малое вядро | 2000 | 2500 |
| Агрэст, малое вядро | 2500 | 3000 |

## У астраўчанаў цукровае жыццё

**АСТРАВЕЦ. Каторы год запар з пачаткам збору чарніц у жыхароў Астравеччыны пачынаецца цукровае жыццё. Многія нарыхтоўшчыкі прапануюць зборшчыкам чарніцаў за кілаграм ягад кілаграм цукру.**

З цукрам у гандлі цяпер перабоі, а ягад у лесе хапае, таму салодкага прадукту можна назапасіць дастаткова.

Крамы райспажыўтаварыства за кілаграм чарніц разлічваюцца ў памеры 600 рублёў, хаця ў летась плацілі 400-500 рублёў даражэй.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Зарплату трэба падняць на 20%

**МАЛАДЗЕЧНА. За чэрвень сярэдняя зарплата па горадзе склала 120853 рублі. Гэта прыкладна 83 долары.**

Кіраўнікі гарвыканкома адзначаюць, што неабходна па горадзе павысіць зарплату мінімум на 20%. За ліпень-жнівень гэта крайне складана. Але да ўзроўню 100 долараў зрабіць неабходна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Фермерскія гаспадаркі

**СМАРГОНЬ. Сёлета старшыня калгаса "Светлый путь" Мікалай Карэка стаў фермерам. Узяў ён 58 гектараў зямлі за вёскай Андрэеўцы.**

Большую частку засеяў аўсом. Атрымаў дзяржаўны заказ на 60 тон. На наступны год Мікалай плануе дадаткова ўзяць яшчэ 30 гектараў.

Усяго ў раёне працуюць 30 фермерскіх гаспадарак, якія ў сваім абароце маюць 563 га ворнай зямлі.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Горад план не выконвае

**МАЛАДЗЕЧНА. Па многіх паказчыках эканамічнага развіцця за першае паўгоддзе горад адстае ад сярэднеабласных паказчыкаў.**

Так, аб'ём прамысловай вытворчасці складае 103% (па плане — 106%). На 6% да плана не дабралі па аб'ёме вытворчасці спажывецкіх тавараў — 99,1%. Па развіцці экспарту горад трымаецца на ўзроўні вобласці. А аб'ём платных бытавых паслуг на 15% вышэйшы.

У гарвыканкоме адзначаюць, што за апошні час адсочваецца станоўчая тэндэнцыя: горад паступова скарачае адставанне ад плана. Упершыню за апошнія два гады Маладзечна мае станоўчае гандлёвае сальда. Экспарт перавышае імпарт на 768 тысяч долараў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ДУБЛЬ

# Шанец ёсць у кожнага

**На пытанні "РГ" аб выніках першага круга дубліруючых складоў адказвае трэнер ФК "Маладзечна-2000" Аляксандр ГАРМАЗА.**

**— Прааналізуйце першы круг у плане паказанага выніку і ў плане падрыхтоўкі рэзерву для галоўнай каманды.**

— Наша асноўная справа — рыхтаваць гульцоў пад "аснову". Пэўныя зрухі тут ёсць. Гэта відаць на прыкладзе **Смірнова і Дразда**. Большасць хлопцаў, выхаванцаў нашай ДЮСШ, дадаюць у майстэрстве, ім на карысць выступленне за дубль клуба вышэйшай лігі. Галоўнае, што шанец праявіць сябе будзе прадастаўлены кожнаму. Што тычыцца выніку ў сэнсе набраных ачкоў, то ніякіх патрабаванняў да дубля не прад'яўляецца. Аднак гэта ж спорт, таму на кожны матч мы выходзім з настроем на перамогу.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Трэнер ФК "Маладзечна-2000" Аляксандр ГАРМАЗА.

**— Супраць каго даводзіцца гуляць, такіх жа юнакоў ці футбалістаў больш дасведчаных?**

— Ёсць каманды, складзеныя амаль цалкам са сталых гульцоў, напрыклад, "Гомель" і "Белшына". Вядомыя імёны былі ў складах мінскіх "Дынама" і "Тарпеда-МАЗа".

**— За дубль часам гулялі Багайчук, Карпіленка, Вільтоўскі, Сысой, іншыя. Наколькі іх прысутнасць на полі дапамагала камандзе?**

— Галоўны трэнер клуба вырашае, каму з асновы патрэбна гульнявая практыка. У гэтым дубль таксама дапамагае галоўнай камандзе. Увогуле, дасведчаныя футбалісты павінныя быць у складзе. Калі іх не будзе, то больш шанцаў праявіць сябе з'явіцца ў моладзі. Так было ў матчы з БАТЭ. Хаця і саступілі ў ім, але выглядалі дастойна.

**— Хвалюе, што не пайшла гульня ў Мароза, мала забіў Чарнель.**

— Першаму трэба вызначыцца з прыярытэтамі: вучоба ці футбол. Другі ставіцца да справы проста непрафесійна, хаця і мае кантракт.

**— Ці будзе выступленне ў другім крузе нечым адрозніванца ў плане задач, камплектавання, месца дыслакацыі?**

— Мяркую, не. Дамашнія матчы па-ранейшым будуць праходзіць у Беразінскім. Увогуле, усё, што сказана вышэй, застанецца без зменаў.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Гомель | 0:4* | 32 |
| 2. БАТЭ (-1) | 1:3 | 25 |
| 3. Тарпеда-МАЗ (-1) | 1:2 | 22 |
| 4. Белшына (-1) | 3:2* | 21 |
| 5. Дынама (М) (-3) | 1:4 | 20 |
| 6. Нёман-Белкард | 0:0* | 19 |
| 7. Славія (-1) | 3:0* | 18 |
| 8. Днепр-Трансмаш | 0:1 | 18 |
| **9. Маладзечна-2000** | **##** | **14** |
| 10. Лакаматыў-96 | 1:0* | 14 |
| 11. Дынама (Б) | 0:1 | 14 |
| 12. Шахцёр | 0:0* | 14 |
| 13. Нафтан-Дэвон | 0:2* | 10 |
| 14. Ведрыч-97 (-1) | 2:1 | 0 |

**Зорачкай** пазначаны дамашнія матчы.

**Галы ў складзе "Маладзечна-2000"** забівалі: Антановіч — 3; Відрук, Млечка — па 2; Грыхуцік, Дараховіч, Лявончык, Смірноў, Чарнель — па 1.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГАРАДКІ

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ. Міжнародная федэрацыя гарадошнага спорту зрабіла геаграфічны прарыў — з 26 ліпеня па 2 жніўня на пляцоўках, размешчаных побач з Петрапаўлаўскай крэпасцю, праходзіць першы чэмпіянат свету.**

Акрамя традыцыйных удзельнікаў Расіі, Украіны, Беларусі, Эстоніі, Латвіі, Малдовы туды прыехалі каманды Казахстана, Кыргызстана, Швецыі, Фінляндыі, Германіі і нават Індыі.

Беларусы адправіліся двума камандамі. Маладзечна прадстаўляць **Генадзь Сушко, Аляксандр Кулак, Аляксандр Карповіч, Аляксандр Філістовіч**. Месяц таму на асабістым чэмпіянаце краіны першынствавалі Карповіч, **Пётр Чаркоўскі** з Бярозаўкі і Сушко. На жаль, з невысокімі паказчыкамі адпаведна 129, 132 і 133 біты.

Міжпарламенцкая асамблея краін СНД і Балтыі прапанавала вызначыцца з нацыянальным (народным) відам спорту. Беларускае Міністэрства спорту і турызму аказалася ў даволі складаным становішчы, адчуваючы велізарны дэфіцыт пры выбары. Хутчэй за ўсё, перавагу аддадуць менавіта гарадкам, хаця, натуральна, больш багатыя гістарычныя карані гэты від мае ў Расіі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



**Табло**

■ ФУТБОЛ

**20.07 Двухбаковая гульня "Маладзечна-2000"**

"Жоўтыя", у складзе якіх гулялі пераважна футбалісты "асновы", перамаглі "чырвоных" з лікам 2:1. Галы забілі **Сідарэнка, Млечка і Турчыновіч**. Узялі ўдзел у матчы гульцы, што знаходзяцца на праглядзе: абаронца **Д. Ваўчок** (карэнны маладзечанец, выступаў за "Забудову", а потым за "Маладзечна" ў 1999 годзе) са сталічнага "Тарпеда-МАЗа" (Д1), паўабаронца **У. Дукса** са "Смаргоні" (Д3) і нападаючы **Мажэйка** з мастоўскага "Нёмана" (Д2).

**23.07, кантрольны матч, БАТЭ — Маладзечна-2000 2:0 (1:0)**

**Галы:** (30), (65).

**Склад:** Сцепановіч, Сарасек, Муравейнікаў, Кабельскі, Ваўчок, Азаронак, Багайчук, Міхалёў, Тартоўскі, Турчыновіч, Сідарэнка. На замены выходзілі Рубацкі, Дараховіч, Мядзь, Карпіленка, Млечка, Сысой, Вільтоўскі, Макрыцкі, Лявончык.

Новыя "праглядаемыя" абаронца **Сарасек** з барысаўскага БАТЭ (Д1) і **Мядзь** з мінскага СКАФа (Д3).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ФК "Беразінскае" | ## | 11 | 7 | 2 | 2 | 27-11 | 23 |
| Нёман (Стаўбцы) | 1:3 | 11 | 7 | 1 | 3 | 19-13 | 22 |
| Гайна (Барысаўскі р-н) | 1:1 | 10 | 6 | 2 | 2 | 29-16 | 20 |
| Пліса (Смалявічы) | 6:0 | 11 | 5 | 2 | 4 | 24-21 | 17 |
| Камунальнік (Клецк) | 5:0 | 11 | 5 | 1 | 5 | 21-24 | 16 |
| Звязда (Мар'іна Горка) | 2:1 | 11 | 5 | 1 | 5 | 13-15 | 16 |
| Меліяратар (Капыль) | 1:1 | 11 | 3 | 5 | 3 | 19-19 | 14 |
| Слуцк | 3:0 | 11 | 4 | 2 | 5 | 18-19 | 14 |
| Лівадыя (Дзяржынск) | 1:3 | 11 | 4 | 2 | 5 | 18-21 | 14 |
| Аўтамабіліст (Нясвіж) | 4:2 | 11 | 2 | 3 | 6 | 20-29 | 9 |
| Колас (Чэрвень) | 2:0 | 11 | 2 | 3 | 6 | 15-30 | 9 |
| Любань | 1:0 | 10 | 2 | 2 | 6 | 11-17 | 8 |

У сераду беразінцы перамаглі "Звязду" з лікам 2:1 (**Дараховіч, Макей**), тым самым выйшлі на першае месца па выніках першага круга. Да лідэра можа далучыцца "Гайна", калі ў прапушчаным матчы абыграе Любань.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

# Адпачынак харошы, калі ёсць грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. V Рэспубліканскі злёт "Пріорбанка" праходзіў ля Віліі. Прымаў гасцей Маладзечанскі філіял. 26 каманд з гарадоў Беларусі святкавалі, адпачывалі і спаборнічалі.**

Суботняя раніца пачалася з урачыстага падняцця сцяга банка. Затым пайшлі адна за адной эстафеты і гульні. Да позняга вечара ўдзельнікі мераліся сіламі (хто ў чым): спартыўнае арыентаванне, перацягванне каната, валейбол, чый палатачны гарадок лепшы, у каго страва смачнейшая.

Цікавай была паласа з перашкодамі, бо кожную каманду суправаджаў апантаны натоўп фанатаў, большасці з якіх узяць удзел у самім спаборніцтве замінаў "працоўны мазоль". Цяжкі дзень заканчваўся дыскатэкай да раніцы (адкуль толькі сілы браліся?!). Нездарма дэвізам некаторых каманд стала перапрацаванае на свой капыл выказванне: "Банкір жыў, банкір жыве, банкір будзе жыць".

Першае месца на конкурсе песні заняў філіял 0107 г. Маладзечна. **Лявон Тышкевіч** выканаў уласную песню на роднай мове, а яму аддана акампанаваў **Аляксандр Дабравольскі**.

Агульнае першае месца атрымалі мінчане. Яны — у падтрымуц іміджу — адважыліся хадзіць у трыццаціградусную спёку ў футровых кашулях.

Арганізацыя злёту была на банкаўскім узроўні — і крама на колах, і палатачная гасцініца, і нават сметніца.

Турклуб "Пілігрым" дапамагаў у наладжванні асобных конкурсаў і сваім паходным досведам натхняў банкіраў на перамогу.

**Кацярына СЫСУН.**



Фота з архіва Кацярыны СЫСУН.
Каманды, як відаць, у першую чаргу прыехалі адпачываць. Надпіс на майцы:
«Ніколі не вер худому шэф-повару».

**На гэтым тыдні гуляюць**

**27.07 Дубль: Славія (Мазыр) — Маладзечна-2000**
У першым крузе 3:0 (Лявончык, Чарнель, Грыхуцік) дома.

**28.07 Славія (Мазыр) — Маладзечна-2000**
+2=1-7 9-20. У першым крузе 0:4 дома.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Пакуль што ў адным ачку ад першай лігі

**22.07 Дынама-2 (Мінск) — Забудова 4:0 (2:0)**

**Галы:** (6), (25), (69), (87).

**Склад:** Ан. Канапелька, А. Урублеўскі, Кавальчук (Фалей, 46), Ал. Канапелька, М. Мятліцкі, Балыкін, Міранович, Садчанка, Чумак (Бяспалы, 46), Дзіковіч, Парашчанка (Мядзведзеў, 72).

**Выдалены** Садчанка на 68 хвіліне.

**22.07 РВАР (Мінск) — Смаргонь 0:1 (0:0)**

**Гол:** Дукса (65).

**Склад:** Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Максіменка (Якубіцкі, 46), Шпілеўскі (Карабінскі, 85), Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч, Шагойка (Шаблінскі, 68), Шпакоўскі (Відук, 77).

Тры перамогі запар атрымалі смаргонцы. Яны не прайграюць ужо на працягу сямі сустрэч. Перад апошнім турам першага круга толькі на адно ачко адстаюць ад другога месца, якое дае права выйсці ў першую лігу.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Абаронца «Смаргоні» Дзмітрый Шагойка выбівае мяч далей ад сваіх варотаў. Побач з ім капітан чысцін цаў Віталь Дзіковіч.

| | |
|---|---|
| 1. Лакаматыў | 41 |
| 2. Вертыкаль | 36 |
| **3. Смаргонь** | **35** |
| 4. Баранавічы | 28 |
| 5. СКАФ | 28 |
| 6. Гомель-2 | 25 |
| **7. Забудова (+1)** | **25** |
| 8. Пінск-900 (-1) | 23 |
| 9. РВАР (-1) | 23 |
| 10. Рудзенск | 23 |
| 11. Дынама-2 (-2) | 22 |
| 12. Днепр | 22 |
| 13. Верас | 22 |
| 14. Старыя Дарогі | 18 |
| 15. Трактар | 15 |
| 16. Прац. рэзервы | 14 |
| 17. Палессе (-1) | 3 |
| 18. Змена | 0 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

